ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (51)

ЛЮТЫ 1937 г.



ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (51)

ЛЮТЫ 1937 г.



ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК—1937

# ПАСТАНОВА №520

## Совета Народных Камісараў БССР

*9 сакавіка 1937 г.* *г. Менск.*

**Аб правядзенні адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва, вытваранага ў 1936 г.**

Совет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Даручыць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР правесці па становішчу на 31 снежня 1936 г. адначасовую рэгістрацыю будаўнічых работ па ўзвядзенню новых будынкаў і пабудоў, рэканструкцыі і пашырэнню, а таксама зносу будынкаў, вытвараных на працягу 1936 г. гаспадарчым ці падрадным спосабам, як у паселішчах гарадскога тыпа, так і ў сельскіх мясцовасцях дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, кааперацыйнымі і інш. грамадскімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.

2. Абавязаць акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы абмеркаваць і зацвердзіць неабходныя мерапрыемствы, якія-б забяспечылі правядзенне гэтай работы не пазней 25/III 1937 г., і вынікі рэгістрацыі будаўніцтва за 1936 год заслухаць на прэзідыумах акруговых і раённых выканкомаў і горсоветаў.

3. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота БССР прадставіць у СНК БССР папярэднія вынікі адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва за 1936 г. не пазней 15 красавіка 1937 года.

Нам. старшыні Совета Народных
Камісараў БССР А. Любовіч

Кіраўнік спраў Совета Народных
Камісараў БССР І. Лук'янчык.

# ЗАГАД № 190

## па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 14 сакавіка 1937 года.*

Не гледзячы на нашы неаднаразовыя ўказанні і папярэджанні, некаторыя райінспектары наргасучота не зразумелі ўсёй важнасці правадзімай работы па адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва 1936 г. і сваёй за яе адказнасці і не прынялі належных захадаў для забеспячэння добраякаснасці

матэрыялаў, паўнаты ахопа і своечасовасці правядзення ўсіх работ па рэгістрацыі будаўніцтва.

Так, райінспектар наргасучота Свяцілавіцкага раёна т. *Ляшкевіч* і Уздзенскага раёна т. *Грышук* прадставілі матэрыял для здачы куставому ўпаўнаважанаму *нядобраякасны*, а самую здачу матэрыялаў куставому ўпаўнаважанаму перадаручылі другарадным работнікам інспектуры.

Матэрыял ад паказаных райінспектур не прынят, звернут ім для даапрацоўкі, выпраўлення і г. д. і для паўторнай здачы з выцякаючымі з гэтага вынікамі.

Таксама звернут матэрыял як нядобраякасны і райінспектурам наргасучота Мехаўскага і Гарадоцкага раёнаў.

У звязку з вышэйпаказаным прапаную:

1. Здачу куставым упаўнаважаным матэрыялаў аднача-совай рэгістрацыі будаўніцтва вытвараць асабіста самім райгорінспектарам.

2. Папярэдзіць усіх райгорінспектароў, што ў выпадку прадстаўлення ў далейшым нядобраякасных (непаўнацэнных) матэрыялаў ці непаўнаты ахопа рэгістрацыяй аб'ектаў будаўніцтва па гораду ці раёну праведзеную рэгістрацыю будаўніцтва *адмяняць* з абавязковым яе *паўторным* правядзеннем у *экспедыцыйным* парадку (п. 5 загада №79 ад 10/III 1937 г. ЦУНХУ Дзяржплана СССР).

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Уладзімірскі.

## ВЫПІСКА З ПАСТАНОВЫ № 287
## Совета Народных Камісараў БССР

*3 сакавіка 1935 г.* *г. Менск.*

Аб размеркаванні па раёнах пасад участковых інспектароў народна-гаспадарчага ўчота.

1. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты, гарадскія советы, арганізацыйныя камітэты новых раёнаў забяспечыць раённыя і гарадскія інспектуры народна-гаспадарчага ўчота ўпарадкаванымі памяшканнямі для работы з аднясеннем іх аплаты, а таксама выдаткаў па гаспадарчаму абслугоўванню (уборка, ацяпленне, асвятленне і карыстанне тэлефонам) за рахунак раённага і гарадскога бюджэтаў.

2. Абавязаць сельскія советы тых паселішч, у якіх знаходзяцца ўчастковыя інспектуры наргасучота, прадставіць ім бясплатнае памяшканне для заняткаў з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, ацяпленне, карыстанне тэлефонам).

Нам. старшыні СНК БССР Саак'ян.
Кіраўнік спраў СНК БССР Лук'янчык.

## Усім інспектарам наргасучота

Справаздачнасць райАНА па ўчоту колькасці персанала і фонда заработнай платы на працягу 1936 года паступала са значным спазненнем. За IV квартал 1937 года па частцы раёнаў не паступілі справаздачы да гэтага часу. Такое становішча пагражае зрывам работы па адначасоваму ўчоту за сакавік месяц.

Усім райінспектарам неадкладна праверыць і забяспечыць высылку справаздачы ф. № 84 па райАНА за IV квартал у НКАсветы.

Адначасова прапаную ўсім райінспектурам пры зрыве тэрміна прадстаўлення справаздачнасці за I квартал неадкладна спіс не прадставіўшых устаноў перадаваць райпракурору і адбітак накіроўваць КНГУ.

Раённым інспектурам скарыстаць апарат участковых інспектароў у асноўным з 20/III па 15/IV на збор матэрыяла адначасовага ўчота колькасці персанала і фондаў зарплаты, не дапускаючы зрываў устаноўленых тэрмінаў і правяраючы паўнату ахопа і якасць справаздачнасці.

У змену ўказаных у інструкцыі ЦУНХУ тэрмінаў, канчатковым тэрмінам прадстаўлення справаздачнасці за I квартал і сакавік па ўстановах і прадпрыемствах раённага бюджэта ўстанавіць 15 красавіка.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

13 сакавіка 1937 г.

## Усім раённым і ўчастковым інспектарам наргасучота

Планам работ на 1937 г., як і ў мінулыя гады, прадугледжана правядзенне квартальнага ўчота работы жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм.

Квартальны ўчот дзейнасці калгасных таварных ферм ставіць сваёй мэтай—улічыць колькасць пагалоўя, асноўныя даныя аб звароце стада (прыплод, падзеж, убой, здача і г. д.), валавой прадукцыі, таварнай прадукцыі, кармленні жывёлы і арганізацыі працы на фермах.

Ахопліваемыя намі 25 проц. калгасна-таварных ферм даюць поўную магчымасць, пры чоткай і правільнай пастаноўцы гэтага ўчота, арганізаваць сістэматычную і поўную інфармацыю мясцовых выканкомаў аб плане арганізацыі ферм,

аб пагалоўі на фермах і вытворчай дзейнасці ферм за справаздачны перыяд.

Недахопам нашай работы па апрацоўцы матэрыялаў квартальнага ўчота ферм у мінулыя гады з'яўлялася тое, што раённыя інспектары наргасучота не выкарыстоўвалі даных квартальных справаздач ферм для дакладаў раённым кіруючым арганізацыям у мэтах аператыўнага кіраўніцтва работай ферм і прыняцця неадкладных мер па палепшанню становішча жывёлагадоўлі ў калгасах (там, дзе паказчыкі па справаздачах ферм з'яўляюцца пагражальнымі—значны падзеж жывёлы, вялікі адыход маладняка, дрэнны догляд за жывёлай і дрэнная арганізацыя працы).

Раённым інспектарам неабходна арганізаваць аператыўнае скарыстанне матэрыялаў квартальнай справаздачы ў мэтах палепшання становішча жывёлагадоўлі ў раёне.

Другім недахопам мінулай работы па квартальнаму ўчоту ферм з'яўляецца вялікі процант брака картак і асобных раздзелаў і справаздач, што зніжала якасць учота і скарыстанне матэрыялаў учота.

Значны процант брака з'яўляецца вынікам дрэннага інструктажа рахункаводаў калгасаў і дрэннага кантроля ўчастковых інспектароў за якасным запаўненнем справаздачных картак. Асабліва дрэнна запаўняюцца наступныя раздзелы:

1) „Выдатак кармоў"—гэты раздзел запаўняецца вельмі няўважліва, асабліва ў частцы ўказання адзінак вымярэння. Замест патрабуемых па форме цэнтнераў, паказваюцца кілограмы, тоны, пуды і г. д. Значная частка калгасаў гэты раздзел зусім не запаўняе (спасылаючыся часта на адсутнасць учота).

2) Па раздзелу „арганізацыя працы" пры запаўненні налічэння працадзён замест таго, каб уключыць толькі налічаныя працадні па жывёлагадоўлі, уключаюць налічаныя калгасам працадні па ўсіх работах.

3) Раздзел „жывёлагадоўчыя будынкі" няправільна запаўняецца некаторымі калгасамі: замест указання колькасці галоў, на якія маюцца гатовыя будынкі, паказваюць колькасць самых будынкаў.

Значным недахопам раінспектароў з'яўляецца парушэнне тэрмінаў прадстаўлення квартальных справаздач ферм у кіраўніцтве наргасучота БССР, што не давала магчымасці аператыўна скарыстаць матэрыялы справаздач у рэспубліканскіх арганізацыях.

Звяртаем увагу раінспектароў на адсутнасць у справа-

здачах планавых паказчыкаў, што не дае магчымасці кантраляваць выкананне плана і зніжае значэнне правадзімага ўчота.

Вырашэнне асноўнай задачы квартальнага ўчота ферм— ператварэнне даных учота ў аператыўны і дзейны дакумент, скарыстоўваемы раённымі арганізацыямі, для аператыўнага кіраўніцтва справай жывёлагадоўлі ў раёне, патрабуе ад усіх раённых і ўчастковых інспектароў наргасучота арганізаваць гэту работу ў бягучым годзе добра і своечасова з тым, каб, не паўтараючы памылак мінулых гадоў, даць добраякасныя ітогі ўчота.

Матэрыял па квартальнаму ўчоту неабходна прысылаць своечасова дакладна ў вызначаныя тэрміны, каб даць магчымасць скарыстаць гэтыя матэрыялы для аператыўнага кіраўніцтва.

Начальнік аддзела ўчота сельскай гаспадаркі КНГУ БССР Гізнбург.

14 сакавіка 1937 г.

## Усім райінспектарам наргасучота.

Каб забяспечыць у гэтым годзе распрацоўку па механічнаму руху насельніцтва ў сувязі са зменай праграмы распрацоўкі, райінспектарам неабходна:

1. У строга вызначаныя тэрміны атрымліваць ад органаў міліцыі адрыўныя талоны адрасных лісткоў.

2. Уважліва правяраць якасць запаўнення гэтых талонаў. Асаблівую ўвагу належыць звярнуць на правільнасць запаўнення ў картках граф аб прыбыцці і выбыцці: 6) адкуль прыбыў, 9-а) мэта прыезда, б) на які тэрмін, і ў картках выбыўшых: графы 7) куды выбыў, графы 9-а) прычына выезда. 9-б) на які тэрмін. Ні адна графа адрыўнога талона не павінна заставацца не запоўненай.

Аб усіх дэфектах, заўважаных пры праверцы запаўнення адрыўных талонаў, райінспектар павінен неадкладна давесці да ведама начальніка міліцыі для таго, каб гэтыя дэфекты былі выпраўлены.

Толькі пасля ўважлівай праверкі і выпраўлення адрыўныя талоны адрасных лісткоў разам з распрацаванай формай „А" дасылаюцца ў аддзел учота насельніцтва Кіраўніцтва наргасучота БССР не пазней 5 чысла кожнага месяца.

Аддзел учота насельніцтва КНГУ БССР.

## ЗАГАД № 146

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 3 сакавіка 1937 г.*

За ўзорную і добраякасную падрыхтоўку і правядзенне перапісу насельніцтва, прэміраваць грашовымі прэміямі наступных удзельнікаў перапісу—раённых і гарадскіх інспектароў наргасучота:

| Назва раёна | Прозвішча | Сума |
|---|---|---|
| Лагойскі | Абражэвіч | 500 |
| Жлобінскі | Крышнеў | 500 |
| Свяцілавіцкі | Ляшкевіч | 500 |
| Полацк—горад | Баўтовіч | 500 |
| Асвейскі | Макеенка | 500 |
| Чырвонапольскі | Лемеш | 300 |
| Тураўскі | Сырамаха | 300 |
| Клічаўскі | Ладуцько | 500 |
| Рэчыцкі | Белугін | 700 |
| Ельскі | Кузнецоў | 500 |
| Чаўскі | Шапко | 500 |
| Лельчыцкі | Грыцкевіч | 300 |
| Лоеўскі | Бацяноўскі | 300 |
| Смілавіцкі | Растокінскі | 300 |
| Нараўлянскі | Сцепанаў | 300 |
| Глускі | Ельніцкі | 500 |
| Мехаўскі | Бажонак | 300 |
| Чырвонаслабодскі | Лукашэвіч | 300 |
| Касцюковіцкі | Лугаўцоў | 500 |
| Мазырскі-райгорупаўнаважаны | Томберг | 300 |
| Парыцкі | Кагачэўскі | 500 |
| Хойніцкі | Аўчыннікаў | 500 |
| Уздзенскі | Грышук | 500 |
| Талачынскі | Шэпелькевіч | 300 |
| Бабруйскі | Леўковіч | 500 |
| Віцебскі | Шмэцер | 700 |
| Менск-горад | Якуцік | 700 |

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

## ЗАГАД № 167

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 8 сакавіка 1937 г.*

Адзначаючы, што Смалявіцкі райінспектар т. *Аксельрод*, склаўшы акт на нягоднасць веласіпеда, прадаў яго без дазволу КНГУ за 30 руб.,—загадваю: продаж веласіпеда

адмяніць. Тав. Аксельроду звярнуць грошы назад пакупніку, а веласіпед здаць загадчыку гаспадаркі КНГУ і аб выкананні далажыць мне.

Папярэджваю ўсіх раўінспектароў, што выключаную маёмасць без дазволу КНГУ прадаваць не дазваляецца.

Выключаныя веласіпеды падлягаюць абавязковай здачы КНГУ.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

## Выпіска з прыгавора асобай сесіі народнага суда гор. Менска

*ад 19 снежня 1936 г.*

Асобая сесія нарсуда г. Менска ў складзе:
старшыні-нарсуддзі *Сідранскага*,
членаў-засядацеляў—*Вечарак* і *Эйдзенава*,
пры сакратары *Колонтай*,

знайшла ўстаноўленым матэрыяламі папярэдняга і судовага следства віноўнасць *Шыманскага* ў тым, што ён, з'яўляючыся загадчыкам аддзялення статыстыкі Планава-фінансавага ўпраўлення НКАсветы БССР, нядбайна адносіўся да сваіх службовых абавязкаў, што выразілася ў несвоечасовым прадстаўленні КНГУ БССР па Наркомасвеце БССР статзвестак па ўчоту працы і зарплаты па дзіцячых пляцоўках, школах дарослых, непісьменных і малапісьменных, па школах усеабуча па форме № 84. Адзначанае злачынства *Шыманскага* прадугледжана 196 арт. КК. Сесія нарсуда *прыгаварыла Шыманскага* Мікалая Сцяпанавіча на падставе 196 артк. КПК падвергнуць прымус. працам па месцу работы тэрмінам на тры месяцы з вылікам 10 проц. яго заробку

Нарсуддзя Сідранскі.

## Арганізацыйны план квартальнай справаздачнасці жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм у 1937 годзе

1. Квартальная справаздачнасць аб рабоце таварных ферм прадстаўляецца калгасамі на падставе пастановы Совета народных камісараў Саюза ССР ад 11 мая 1932 года і ад 20 снежня 1936 года і мае мэтай учот:

а) колькасці пагалоўя;

б) асноўных даных аб звароце стада (прыплод, падзеж, убой, здача, продаж і г. д.);

в) валавой прадукцыі;

г) таварнай прадукцыі;
д) кармлення жывёлы;
е) арганізацыі працы на фермах.

2. Квартальны ўчот у 1937 г. праводзіцца па ўсіх раёнах рэспублікі, але не па ўсіх калгасах, маючых таварныя фермы, а толькі на 25 проц. агульнага іх ліку.

3. Квартальную справаздачнасць у 1937 годзе абавязаны прадстаўляць калгасы, маючыя адну альбо некалькі жывёлагадоўчых таварных ферм (буйнай рагатай жывёлы, свінагадоўчую, аўцагадоўчую, козагадоўчую альбо змешаную).

Заўвага: Акрамя гэтага, справаздачу па форме 23-а ў 1937 годзе ў цэлым абавязаны прадставіць усе племянныя фермы прадукцыйнай жывёлы.

4. Козагадоўчыя фермы, а таксама козы ў аўцагадоўчых фермах улічваюцца па графе для авец.

5. Учот ферм усіх напрамкаў вядзецца на адным бланку:

1) форма 23, па якой звесткі прадстаўляюцца за I, II і III кварталы 1937 г;

2) форма 23-а з паказчыкамі за IV квартал і за ўвесь 1937 г. у цэлым. Па гэтай форме звесткі даюцца па сканчэнні IV квартала 1937 года.

6. Раённы інспектар наргасучота разам з райЗА ўстанаўляе па кожнаму раёну спіс калгасаў, абавязаных квартальнай справаздачнасцю. Гэты спіс зацвярджаецца Кіраўніцтвам наргасучота БССР.

Як правіла, на 1937 год захоўваецца спіс калгасаў, адабраных для 1936 года. Змены спіса дазваляюцца толькі ў выключных выпадках (масавая арганізацыя новых калгасаў у раёне, узбуйненне дробных калгасаў).

Пры наяўнасці значных змен праводзіцца адбор калгасаў занова.

Адбор калгасаў праводзіцца з такім разлікам, каб:

1) адабраныя фермы па свайму тыпу адпавядалі ўсёй масе ферм у раёне;

2) па магчымасці быў-бы захаван спіс калгасаў, даваўшых квартальную справаздачнасць у 1936 годзе. У гэтых мэтах раённы інспектар складае спіс калгасаў, якія маюць на 1-е студзеня 1937 года фермы, размяшчаючы іх па часу арганізацыі першай фермы. У пачатку спіса пойдуць калгасы, якія арганізавалі фермы ў 1931-1933 г. г., потым калгасы, якія арганізавалі фермы ў 1934-1935 г. г. і нарэшце— у 1936 г. Даныя аб часе арганізацыі ферм бяруцца з матэрыялаў перапісу жывёлы альбо райЗА. Унутры аднаго і таго-ж года калгасы размяшчаюцца па месяцах арганізацыі, а калі няма даных,—па алфавіту.

Складзены такім чынам спіс разбіваецца на групы па 4 калгасы. Напрыклад, калі ў спіс папала 12 калгасаў, гэты спіс разбіваецца на 3 групы. Калі ў астачы атрымаецца 1 альбо 2 калгасы, то яны далучаюцца да апошняй групы, а калі 3 калгасы, то яны складаюць новую групу.

З кожнай групы выбіраецца адзін калгас, абавязаны квартальнай справаздачнасцю. Калі ў групе ёсць калгасы, даваўшыя справаздачу ў 1936 годзе, то выбіраецца гэты калгас. Калі такога калгаса ў групе не акажацца, то бярэцца першы па чарзе ў групе калгас. Калгас папаўшы ў лік абавязаных квартальнай справаздачнасцю, дае звесткі па ўсіх маючыхся ў яго фермах.

Калі на працягу года ў гэтых калгасах будуць арганізаваны новыя фермы, то па іх даюцца звесткі, пачынаючы з таго квартала, у якім яны арганізаваны.

Пасля адбора калгасаў, маючых фермы, праводзіцца адбор калгасаў, якія не маюць ферм. На гэтыя калгасы складаецца асобны спіс па алфавіту сельсоветаў, у якіх яны знаходзяцца, адбіраюцца 1, 5, 9, 13 і г. д. калгасы.

Адабраныя такім чынам калгасы пачынаюць даваць квартальныя справаздачы з таго квартала, у якім яны арганізуюць фермы.

Спіс складзены на 1-е студзеня, з'яўляецца адзіным спісам для ўсяго 1937 года.

Раённы інспектар паведамляе ўстаноўленыя спісы калгасаў і ферм, абавязаных квартальнай справаздачнасцю, участковым інспектарам наргасучота, апавяшчае калгасы, маючыя фермы і ўключаныя ў спіс, аб абавязку іх прадстаўляць у паказаныя тэрміны запоўненыя бланкі квартальнай справаздачнасці па ўсіх маючыхся ў калгасе таварных фермах, а таксама паведамляе ўстаноўленыя спісы ў КНГУ БССР.

Заўвага: Раённы інспектар складае на аснове чэрвеньскага ўчота 1937 г. поўны спіс па раёну племянных ферм буйнай рагатай жывёлы, свінагадоўчых і аўцагадоўчых, правярае яго па апошніх даных райЗА на 1 снежня 1937 г. і ўстанаўлівае, якія фермы з гэтага спіса не ўвайшлі ў агульны спіс 25 проц. калгасаў. Не ўвайшоўшым у гэты спіс калгасам з племяннымі фермамі райінспектар паведамляе аб абавязку іх прадставіць справаздачу па племянной ферме за 1937 год. Па сканчэнні справаздачнага 1937 года, г. зн. пасля 1 студзеня 1938 года, райінспектар прымае меры да атрымання гэтых гадавых справаздач шляхам камандыравання на гэтыя пляменныя фермы ўчастковых інспектароў, пад наглядам якіх гэтыя справаздачы і складаюцца. Справаздачы складаюцца па форме 23-а, прычым, запаўненню падлягаюць:

1) уся частка „Б" „Справаздача за 1937 г. у цэлым" і

2) раздзелы: „склад стада", „узважванне жывёлы", „прадукцыя малака", „злучка", „ацёл", „апарос і акот", „здача, продаж, убой і падзеж" і „выдаткаванне кармоў", прычым у гэтых раздзелах звесткі даюцца не за IV квартал, як паказана ў бланку, а за ўвесь

1937 год. Таму райінспектар, камандыруючы на племфермы ўчастковых інспектароў, уручае ім бланкі формы 23-а, папярэдне выпраўленыя (ад рукі чарніламі) паказаным КНГУ спосабам. Па племянных фермах, якія папалі ў агульны 25-проц. адбор калгасаў, райінспектар загадзя правярае атрыманне справаздач за ўсе кварталы 1937 г. і ў выпадку адсутнасці справаздачы за які-небудзь квартал, прымае меры да неадкладнага яго атрымання.

7. На калгасы, якія не прадставілі ў тэрмін справаздачнасці, органамі ЦУНХУ накладаецца штраф у размеры не звыш 150 руб. згодна пастановы СНК СССР ад 11 мая 1932 года. Штраф можа накладаць толькі КНГУ БССР па прадстаўленню райінспектуры наргасучота.

8. Арганізацыя і правядзенне ўчота ўскладаецца: па рэспубліцы ў цэлым на Кіраўніцтва наргасучота БССР, у раёнах—на раённага інспектара наргасучота і па ўчастку—на ўчастковага інспектара наргасучота.

9. Асноўнымі задачамі КНГУ ў адносіне квартальнага ўчота з'яўляецца:

а) асабісты інструктаж, наладжванне нізавога ўчота і справаздачнай дысцыпліны па жывёлагадоўчых калгасных фермах;

б) кантроль за правільнасцю ўчота і справаздачных даных і барацьба з укрыццем жывёлагадоўчай прадукцыі калгасных ферм ад учота;

в) забеспячэнне стражайшай справаздачнай дысцыпліны і адказнасці сярод райінспектароў наргасучота. КНГУ штоквартальна складае спісы раёнаў з паказаннем тэрміна прадстаўлення справаздачнасці, якасці матэрыялаў і паведамляе гэтыя спісы ўсім раённым інспектарам наргасучота;

г) тэрміновая зводка справаздачных даных;

д) сістэматычная інфармацыя кіруючых арганізацый рэспублікі аб выніках дзейнасці ферм у разглядаемы перыяд;

е) складанне кароткай дакладнай запіскі ў ЦУНХУ да дасылаемых зводак:

1) з паясненнем прычын спазнення асобных раёнаў і мерах, прынятых КНГУ для ліквідацыі спазненняў і

2) кароткага аналіза матэрыялаў зводкі, якія магчыма абмежаваць указаннем новых з'явішч у рабоце ферм, а таксама важнейшых дасягненняў альбо прарываў па асноўных паказчыках работы ферм.

10. На абавязку раённых інспектароў наргасучота ляжыць:

а) інфармацыя райвыканкома аб плане арганізацыі ўчота справаздачнасці і мерапрыемствах па палепшанню ўчота і справаздачнасці па таварных фермах і аб формах канкрэтнай дапамогі квартальнаму ўчоту з боку раённых арганізацый і асабліва з боку райЗА;

б) правядзенне падрыхтоўчых работ па ўчоту, у прыватнасці складанне дакладнага спіса калгасаў, маючых фермы, адбор калгасаў, абавязаных справаздачнасцю, паведамленне ўстаноўленых спісаў участковым інспектарам, апавяшчэнне калгаса аб абавязку прадстаўляць справаздачнасць і прадстаўленне спіса адабраных калгасаў і ферм у КНГУ, удзел у арганізацыі калгаснай грамадскасці і друку ў барацьбе за правільны ўчот і абмеркаванне вынікаў учота;

в) снабжэнне калгасаў, маючых фермы, бланкамі і інструкцыямі праз участковых інспектароў;

г) інструктаванне ўчастковых інспектароў па пытаннях запаўнення справаздачных картак;

д) нагляд за своечасовым прадстаўленнем квартальных справаздач і прынящце мер да своечасовага іх прадстаўлення, учот своечасовасці паступлення справаздач па ведамасці № 1 згодна далучаемай формы;

е) кантроль і праверка справаздачных даных квартальнай карткі;

ж) паведамленне аб няспраўных калгасах у КНГУ БССР для накладання на іх штрафа;

з) зводка даных квартальнай справаздачнасці па ўстаноўленай праграме згодна 14 пункта арганізацыйнага плана і інструкцыі па зводцы;

і) прадстаўленне справаздачных зводак у КНГУ БССР;

к) сістэматычная інфармацыя (даклады) раённым кіруючым арганізацыям аб дзейнасці ферм за справаздачны перыяд.

11. На абавязку ўчастковых інспектароў ляжыць:

а) снабжэнне калгасаў, ахопленых справаздачнасцю па таварных фермах, карткамі і інструкцыямі;

б) інструктаж рахункаводаў калгасаў, старшынь праўленняў і загадчыкаў таварнымі фермамі калгасаў па пытаннях запаўнення справаздачных картак;

в) нагляд за своечасовым прадстаўленнем квартальных справаздач і прынящце мер да своечасовага іх прадстаўлення;

г) кантроль і праверка справаздачных даных бланка квартальнай справаздачнасці. У гэтых мэтах участковы інспектар робіць у асобны сшытак, атрымліваемы ад райінспектара, выпіскі асноўных паказчыкаў аб рабоце ферм з справаздач па кожнаму кварталу; пры атрыманні новай справаздачы, ён звярае яе з сваімі выпіскамі;

д) выезд у калгасы, якія не прадставілі даных у тэрмін альбо прадставілі няпоўныя, дэфектныя альбо няправільныя даныя для канчатковага вырашэння спрэчных пытанняў на месцы і папярэджання аб недапушчальнасці паўтарэння ненармальнасцей ва ўчоце;

е) прадстаўленне справаздачных картак раённаму інспектару не пазней як праз 5 дзён па сканчэнні квартала (не пазней 5 студзеня, 5 красавіка, 5 ліпеня і 5 кастрычніка).

12. Запаўненне бланкаў квартальнай справаздачнасці робіцца рахункаводам калгаса, адказным за своечасовае прадстаўленне іх участковаму інспектару наргасучота і атрымліваючым ад апошняга неабходныя інструкцыйныя ўказанні.

Правільнасць звестак завяраецца старшынёю калгаса альбо асобаю, якая яго замяняе.

13. Запоўненыя бланкі квартальнай справаздачнасці калгасы, маючыя таварныя фермы, прадстаўляюць не пазней чым праз 3 дні па сканчэнні справаздачнага квартала ўчастковаму інспектару. Другі экземпляр абавязкова застаецца ў справах калгаса.

14. Зводка справаздачнасці ферм утвараецца, як правіла, райінспектарам.

На падставе квартальных справаздач райінспектары наргасучота разам з райЗА складаюць для прэзідыума РВК і райкома КП(б)Б паказчыкі работы ферм кожнага калгаса ў паасобку.

Атрыманыя дадатковыя справаздачы па племянных фермах, якія не ўключаны ў 25-проц. адбор, таксама дасканала правяраюцца райінспектарам, у прыватнасці, шляхам параўнання з данымі райЗА і дасылаюцца ў КНГУ. На кожнай такой справаздачы па племферме райінспектар робіць адзнаку „племянныя ўне адбора". У раённую зводку гэтыя племянныя фермы (уне адбора) не ўключаюцца.

Райінспектар адзначае разам з райЗА па кожнай справаздачы племяннай фермы (уключанай і няўключанай у 25-проц. адбор) назву планавай пароды жывёлы па гэтай ферме.

Па племянных фермах, уключаных у 25-проц. адбор, у КНГУ дасылаюцца копіі справаздач за ўсе чатыры кварталы 1937 г. Племянныя фермы, папаўшыя ў адбор, уключаюцца ў раённую і рэспубліканскую зводку і, акрамя таго, разам з племяннымі фермамі ўне адбора ўключаюцца ў рэспубліканскую зводку племянных ферм.

15. Райінспектары наргасучота 7 чысла наступнага за справаздачным кварталам месяца абавязаны паведаміць КНГУ звесткі па асобнай форме аб паступленні запоўненых картак.

У гэтых звестках паказваецца лік калгасаў, маючых жывёлагадоўчыя фермы, лік ферм у іх і колькасць калгасаў, прадставіўшых звесткі.

16. Райінспектар прыступае да кантроля бланкаў не пазней 7-га чысла наступнага за справаздачным кварталам месяца.

Не пазней 10-га чысла наступнага за справаздачным кварталам месяца райінспектар абавязан закончыць кантроль запоўненых бланкаў і прыступіць да зводкі.

Зводка заканчваецца і высылаецца ў КНГУ не пазней 15-га чысла таго-ж месяца.

17. КНГУ 20-га чысла наступнага за справаздачным кварталам месяца паведамляе ЦУНХУ СССР звесткі па форме № 3.

18. КНГУ заканчвае кантроль і зводку раённых ітогаў не пазней 5 дзён другога за справаздачным кварталам месяца і дасылае зводку ў ЦУНХУ Дзяржплана СССР (не пазней 5-га лютага, 5-га мая, 5-га жніўня і 5-га лістапада).

Начальнік аддзела ўчота сельскай
гаспадаркі КНГУ БССР Гінзбург.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## для раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчота па правядзенню адначасовага ўчота колькасці работнікаў і фондаў заработнай платы за сакавік месяц 1937 года

(Па гэтай інструкцыі праводзяць работу таксама гарадскія інспектары наргасучота па тэрыторыі, падпарадкаванай горсоветам).

1. Аднaчасовы ўчот колькасці персанала і фондаў зарплаты па ўсіх галінах народнай гаспадаркі за сакавік месяц 1937 г. мае сваёй задачай устанавіць поўныя вычарпальныя даныя: а) аб колькасці персанала і заработнай плаце за сакавік 1937 г. па абласцях (краях, АО, АССР і саюзных рэспубліках) у разрэзе галін працы, ведамстваў, тыпаў паселішч (горад, вёска) і катэгорый работнікаў; б) аб колькасці персанала ў паасобных галінах працы па раёнах.

2. Учот праводзіцца па формах, устаноўленых для бягучай справаздачы па працы. Справаздачныя карткі збіраюцца за сакавік 1937 г., а па прадпрыемствах (установах), для якіх устаноўлена квартальная справаздача, — за I квартал 1937 г.

## I. Складанне спісаў прадпрыемстваў і ўстаноў

3. Асноўнай падрыхтоўчай да правядзення адначасовага ўчота работай з'яўляецца складанне вычарпальных спісаў усіх прадпрыемстваў і ўстаноў, знаходзячыхся на тэрыторыі раёна.

Заўвага: Не павінны ўключацца ў раённыя спісы толькі прадпрыемствы і ўстановы НКАбароны, НКУС, НКШЗ, НКВода, Аэрафлота, апарат партыйных арганізацый, калгасы, а таксама падсобныя прадпрыемствы з наёмным персаналам, маючыяся ў калгасах.

Прадпрыемствы і ўстановы, якія знаходзяцца ў веданні партыйных арганізацый (навучальныя ўстановы, газеты і інш.), уключаюцца ў спіс на агульных падставах.

4. Для складання ўказаных спісаў райінспектар павінен запатрабаваць ад усіх раённых ведамственых арганізацый, як састаячых на бюджэце (раённым, абласным, рэспубліканскім, саюзным), так і гаспадарча-разліковых,—прадстаўлення спісаў падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў.

У прыватнасці, у адносіне спісаў, прадстаўляемых аддзеламі РВК, трэба адзначыць наступнае:

а) школы, хаты-чытальні і іншыя культурна-асветныя ўстановы, якія знаходзяцца на сельсовецкім бюджэце, павінны быць паказаны ў спісу райАНА (а не сельсовета); роўным чынам, урачэбныя і фельчарскія пункты і інш. установы аховы здароўя, якія знаходзяцца на сельсовецкім бюджэце, уключаюцца ў спіс райздрава;

б) паколькі прадстаўляемая райЗА зводная картка ф. 40, уключаючая ў сябе апарат самага райЗА і падпарадкаваныя яму прадпрыемствы і ўстановы, не ахапляе інкубатарных станцый і калгасных школ, у спісу райЗА павінны быць абавязкова паказаны, апрача самага райЗА, таксама ўсе падпарадкаваныя яму інкубатарныя станцыі і калгасныя школы, справаздачнасць па якіх прадстаўляецца на асобных картках (ф. 6-а—для інкубатарных станцый, ф № 8 для калгасных школ).

Апрача таго, для наступнай праверкі паўнаты справаздачнасці па картцы ф. 40, якая будзе прадстаўлена райЗА за I квартал 1937 г., належыць запатрабаваць ад райЗА пералік на ўсе падпарадкаваныя яму ўстановы агра-зоо-і ветсеткі і на іншыя прадпрыемствы і ўстановы, падлягаючыя ўчоту па ф. 40. Трэба пры гэтым улічыць, што па ф. 40 павінны быць падлічаны і тыя з паказаных агро-зоо-і вет-устаноў, якія знаходзяцца на сельскім бюджэце;

в) знаходзячыяся на тэрыторыі раёна ўстановы абласнога, рэспубліканскага і саюзнага падпарадкавання, у спісы, складаемыя аддзеламі РВК, уключэнню не падлягаюць; установы гэтыя павінны быць, аднак, паказаны ў спісах, складаемых участковымі інспектарамі,—гл. ніжэй п. 7, а таксама

ў спісе „іншых прадпрыемстваў і ўстаноў", складаемым райінспектарам (гл. ніжэй п. 9—2).

5. Спісы прадстаўляюцца ведамственымі арганізацыямі па наступнай форме:

Назва арганізацыі..........................................................

Наркамат (ведамства)..........................................................

| №№ п/ч. | Назва прадпрыемства (установы) | Месцазнаходжанне (назва горада ці вёскі) | Паштовы адрас і № тэлефона | Заўвага |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

У паказаны спіс першым парадкавым нумарам павінна быць запісана сама арганізацыя (аддзел РВК, раённая кантора Комзага і інш.), якая прадстаўляе спіс.

Раённым аддзелам народнай асветы і аховы здароўя, маючым разгалінаваную сетку, райінспектар прадстаўляе для складання спіса друкаваныя бланкі: райАНА—бланк формы А-1; райздраву—бланк формы А-2. Бланкі гэтыя, як і бланкі формы Б—(гл. ніжэй)—павінны быць высланы райінспектуры сектарам учота працы рэспубліканскага КНГУ.

Так як спісы, атрыманыя ад райАНА і райздрава, у паследуючым непасрэдна ўключаюцца ў агульны спіс па раёну (гл. ніжэй п. 10-б), неабходна забяспечыць, каб гэтыя спісы былі запоўнены райАНА і райздравам чотка (чарніламі) і каб падпарадкаваныя ім установы былі занесены ў спіс па тыпах устаноў у тым парадку, як яны значацца ў формах 84 і 89 (графы 5, 6 і 7 форм А-1 і А-2 райАНА і райздравам не запаўняюцца).

Заўвага: Пры наяўнасці на тэрыторыі раёна гарадоў з буйнай комунальнай гаспадаркай, асобны бланк (па ф. А-2) прадстаўляецца таксама райгоркомунаддзелу.

6. Для наступнай праверкі паўнаты паказаных вышэй спісаў шляхам сапастаўлення іх з маючыміся ў райінспектуры НГУ спісамі, прадстаўленымі тымі-ж арганізацыямі пры правядзенні ўчота за сакавік 1936 г. (гл. ніжэй п. 8), райінспектар павінен прапанаваць раённым арганізацыям, каб яны, адначасова з прадстаўленнем спісаў, паведамілі райінспектуру аб усіх меўшых месца за апошні год (пасля сакавіка 1936 г.) выпадках ліквідацыі падведамственых ім прадпрыемстваў (устаноў), змен назваў гэтых прадпрыемстваў і ўстаноў, перахода іх у непасрэднае падпарадкаванне вышэйстаячай арганізацыі таго-ж ведамства ці перадачы іх у другое ведамства (з паказаннем, у якое іменна).

7. Адначасова райінспектар павінен даць заданне ўчастковым інспектарам наргасучота скласці спісы ўсіх прадпрыемстваў (установ), знаходзячыхся на тэрыторыі іх участкаў.

Спісы складаюцца ўчастковым інспектарам на падставе апытання работнікаў сельсоветаў, работнікаў міліцыі і іншых мясцовых работнікаў, добра ведаючых даны ўчастак, а таксама па спісах прадпрыемстваў і ўстаноў, складзеных пры правядзенні рознага рода кампаній і ўчотаў (рэалізацыя пазык і інш.).

Для складання паказаных спісаў райінспектар прадстаўляе ўчастковаму інспектару друкаваны бланк спіса формы Б. (Калі наяўны размер бланка акажацца недастатковым, участковы інспектар падклейвае да друкаванага бланка дадатковы ліст).

8. Пры прыёмцы спіса ад раённай арганізацыі райінспектар павінен яго зверыць са спісам, складзеным па той-жа арганізацыі пры ўчоце за сакавік 1936 г., а таксама са спісамі, атрыманымі ад участковых інспектароў у бягучым годзе. Калі ў прадстаўленым раённай арганізацыяй спісе не паказаны такія прадпрыемствы і ўстановы, якія значыліся ў яе складзе ў сакавіку 1936 г., ці паказаны па гэтай арганізацыі ў спісах, атрыманых ад участковых інспектароў,—райінспектар павінен праверыць, ці не прапушчаны гэтыя прадпрыемствы (установы) у прадстаўленым райарганізацыяй спісу.

9. На падставе ведамственых спісаў, спісаў прадстаўленых участковымі інспектарамі і матэрыялаў, маючыхся непасрэдна ў райінспектуры, райінспектар складае агульны спіс усіх прадпрыемстваў і ўстаноў, знаходзячыхся на тэрыторыі раёна, *па наступных двух падраздзяленнях:*

### 1. СПІС ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЎСТАНОЎ ПАДПАРАДКАВАНЫХ РВК (ГОРСОВЕТУ) І СЕЛЬСОВЕТАМ

Сюды адносяцца ўстановы, знаходзячыяся на раённым і сельсовецкім бюджэце, і ўсе падпарадкаваныя ім гасразліковыя прадпрыемствы і ўстановы, а таксама райФА.

Поўны спіс арганізацый, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, павінен быць устаноўлен райінспектарам НГУ ў мясцовым райфінаддзеле.

У прыватнасці, у гэты раздзел спіса ўносяцца:

а) прэзідыум і агульны аддзел РВК (горсовета), уключаючы ваенна-ўчотныя сталы;

б) аддзелы РВК (горсовета)—райАНА, райздраў, райЗА, райФА, райунутгандаль, райсобез, райкомунаддзел, райдараддзел, райплан і інш.;

в) усе прадпрыемствы і ўстановы, падпарадкаваныя прэзідыуму РВК (горсовету) і яго аддзелам (у прыватнасці— раённы камітэт па справах фізкультуры і спорта, раённая дзіцячая камісія, рэдакцыя раённай газеты, дамы калгасніка і інш.);

г) сельсоветы і ўстановы і прадпрыемствы сельсоветаў.

Пры складанні спіса сельсоветаў і падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў павінна быць улічана, што ўтрымліваемыя на бюджэце сельсоветаў школы, хаты-чытальні і інш. культ.-асветныя ўстановы павінны праходзіць па спісу райАНА, урачэбныя і фельчарскія пункты—па спісу райздрава, і ветлячэбніцы—па спісу райЗА. У спіс на сельсоветы ўсе гэтыя ўстановы ўключацца не павінны.

Заўвага: Прадпрыемствы, падпарадкаваныя раённым арганізацыям, якія не знаходзяцца на раённым бюджэце (напрыклад: райканторы Заготзярно, Раймаслапрому, раённаму ўпаўнаважанаму Комзага і г. д.), як і самі гэтыя раённыя арганізацыі, у гэты спіс не ўваходзяць. але ўключаюцца ў спіс „іншых прадпрыемстваў і ўстаноў“.

## 2. СПІС УСІХ ІНШЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЎСТАНОЎ

У гэты спіс уключаюцца ўсе прадпрыемствы (установы) саюзнага і рэспубліканскага падпарадкавання (апрача райФА), а таксама тыя раённыя арганізацыі і падпарадкаваныя ім прадпрыемствы, якія не састаяць на раённым бюджэце (напрыклад, райканторы Заготзярно, Раймаслапромы і г. д.). У прыватнасці, у гэты спіс увойдуць наступныя прадпрыемствы і ўстановы (тут пералічваюцца для прыклада толькі галоўнейшыя): цэнзавыя і няцэнзавыя промпрадпрыемствы (апрача падпарадкаваных аддзелам РВК і сельсоветам), соўгасы, каапгасы і прыгарадныя гаспадаркі (апрача падпарадкаваных аддзелам РВК), МТС, будоўлі, Райінспектуры, НГУ, раённае аддзяленне сувязі, райупаўнаважаны Камітэта нарыхтовак, райпракуратура, нарсуды, райпатрэбсаюз і ўсе яго сельпо, радыёвузлы, аддзяленні і філіялы Дзяржбанка, ашчадкасы, канторы і прадпрыемствы Заготзярно (элеватары, заготпункты і інш. райканторы „Закотскот“, прадпрыемствы Маслапрома, заготпункты і заводы Галоўмалако, арцелі інвалідаў, лясной і прамысловай кааперацыі, раённыя советы Асоавіяхіма і Саюза т-ва Чырвонага крыжа і Чырвонага паўмесяца, аптэкі, нафтасклады Саюзнафтазбыта, прадпрыемствы „Галоўхарчпрома“, Раймлынкіраўніцтва з усімі яго прадпрыемствамі, прадпрыемствы Саюздруку, Райпрофсовет і інш.

Прадпрыемствы і ўстановы ўпісваюцца ў гэты спіс у парадку ведамстваў і арганізацый, а ў межах арганізацый па аднародных групах прадпрыемстваў і ўстаноў.

